нумар 5 жнівень 1998

# ГЭТА МЫ!

> **Я бачу процьму жаўнераў - як хацеў-бы я бачыць шмат ваяроў. “Мундзерам” завецца тое, што носяць яны; ды ня будзе мундзерам тое, што носяць яны пад ім.**
>
> *Заратустра*

# СВАЕ АБШАРЫ — ПАД СВАЮ АХОВУ

Ледзьве ня кожнаму мінаку калі-кольвечы даводзілася назіраць гідную дзею, калі непаўнавартыя мужчыны-міліцыянты з выглядам безумоўнае рацыйнасьці, задаволена чапляюцца да бабуляў, што жыцьцём вымушаныя з-пад крыса гандляваць палявымі кветкамі, цыгарэтамі ці якой іншай драбнотай. Нярэдка надараецца пабачыць, як тыя ж маладзёны ў форме ўчэпіста цягнуць крыху падвыпіўшага дзядзьку, які ў бацькі ім надатны, у пастарунак, дзе да яго напагатоў — абразы й пагарда.

Аднак разам з тым “ахоўнікі парадку” жвава пераймаюць карысны досьвед іхных усходніх калегаў — не зважаць на нахабную расхялзанасьць крымінальных “аўтарытэтаў” і патураць іхнаму свавольлю. Ды што “аўтарытэты” — на шэраговых каротка-голеных малойчыкаў не зьвяртаецца аніякае ўвагі. Затое людзям даводзіцца задавальняцца нятаннымі цыгарэтамі дзяржаўных крамаў ды кветкамі па “зорных” коштах.

Для мужнае міліцыі, падаецца, сьпіс ворагаў разьмяркоўваецца наступным чынам: апазыцыя, гандляры апазыцыйнай прэсай, “цыгарэтніцы”, проста гандляры ды алкаголікі. Тым ня меней статыстыка абнадзейліва паракнвае: “злачынстваў раскрыта ўсё больш”, “штрафаў накладзена ўсё больш”, “пратаколаў складзена ўсё больш”…

Нядаўна зноўку адноўленыя выправы добраахвотных народных дружынаў, што ажыцьцёўленае на падставе прэзыдэнцкага ўказу. Няцяжка здагадацца, што яны сабою ўяўляюць: некалькі кволых дзядуляў зь нязьменна чырвонымі павязкамі. Відавочна, што з парасьперазанай шпаной яны ня справяцца.




*Няма даверу да міліцыі - прыхільнасьць здабудзе Народная Самаабарона*

І сёньня, калі ўлада няздольная адолець прынамсі вулічную злачыннасьць, стан рэчаў забавязаныя зьмяніць Беларусы - адзіныя гаспадары гэтае зямлі. Нашая гісторыя багатая на лучныя прыклады, і тут варта ўзгадаць аб ваярох зь Беларускае Самааховы, што забясьпечвалі парадак і пры БНР (з сакавіку’1918), і падчас Другое Сусьветнае вайны (з восені’1942). У чарговы раз гісторыя прапаноўвае нам узор для патвораньня.

Эфэктоўнасьць утварэньня адзьдзелаў адноўленае БСА не прамарудзіла б на сябе чакаць. Натуральна, асноўны плён — гэта Рэальны Парадак на беларускіх вуліцах, на выяву чаго насельніцтва ўжо дарэшты забылася й амаль страціла надзею калі-небудзь вольна прайсьціся па

працяг на старонцы 8

**Французскія ультра-правыя нацыяналісты выходзяць на авансцэну вышэйшага палітычнага сьвету.**

# БЕЛЫ РЭВАНШ: ФРАНЦЫЯ

Радамір Коршак

Нядаўна Францыю абляцела вестка з поўдню краіны, што ладна ўскаламесіла цэнтрысцкія палітычныя сілы: у гарадку Вітроль, дзе мэрам ужо два гады зьяўляецца прадстаўнік ультра-правага Нацыянальнага Фронту, уведзеная адмысловая прэмія ў 5000 франкаў (каля 800 даляраў) за нараджэньне дзіцяці «ад французскіх ці эўрапейскіх бацькоў». Муніцыпальныя ўлады некалькіх іншых французскіх гарадоў, дзе стырно упэўнена трымае Фронт, абвясьцілі аб супольнай падтрымцы гэткага кроку й заявілі аб напэўнай пераніцоўцы вітрольскага новаўводу.

Падставаў для радыкалізму ў французскіх правых багата: варта ўзгадаць толькі аб пэрыядычных выбухах у цэнтры буйных гарадоў, ладжаныя зьлюцелымі арабскімі тэрарыстамі, каб зразумець што суб'ектыўных нагодаў для тае ці іншае формы помсты ў французаў хапае. Да слова, колькі часу таму актывісты НФ дзейсна паспрыялі паліцыі ў выкрыцьці таемных базаў ісламскіх баевікоў у прыгарадах Парыжу. Наіўна было-б спадзявацца на ймгненнае спыненьне арабамі тэрактаў — а таму Нацыянальны Фронт мае працягваць свой шлях.

«Мне здаецца, — прамовіў нядаўна прэзыдэнт Жак Шырак, — што мы страцілі кантроль за ходай рэчаў». Сказанае гэта было пад уражаньнем ад вынікаў рэгіянальных выбараў у Францыі. І насамрэч — уразіцца ёсьць чаму: у 14-і рэгіёнах (з 22-ох) перамогу атрымалі правыя сілы, а ў шасьці рэгіёнах прадстаўнікі правых партыяў атрымалі пасады старшыняў рэгіянальных радаў. Адбылося гэта вылучна праз падтрымку правых кандыдатаў Нацыянальным Фронтам. Правацэнтрысцкія партыі (г.зв. «традыцыйныя правыя») маюць досыць напружаныя адносіны з НФ і неўзабаве нават пазбавілі сябраўскіх картак частку тых дэпутатаў, што пайшлі на саюз і з фронтаўцамі. Вынікам гэтага, натуральна, сталася павелічэньне прыхільнікаў НФ сярод абраных.

Узрушаны вынікамі Шырак без прамаруджаньня абразіў Фронт эпітэтамі накшталт «ксэнафобская й расісцкая партыя». Але лідар Фронту *Жан-Мары Ле Пэн* адразу ж адпарыраваў яму, заявіўшы па нацыянальным радыё, што «Жак Шырак і ягоныя памагатыя, магчыма, найбольш амаральныя лідары, якія калі-кольвечы кіравалі Францыяй». Зрэшты, ані верашчаньні сп.Шырака, ані заявы-трызьненьні разнастайных цэнтрысцкіх і сацыялістычных груповак ужо ня здольныя перашкодзіць упэўненаму руху Нацыянальнага Фронту. І нават відавочна заангажаванае, палітызаванае пазбаўленьне Ле Пэна права наўпроцяж двох гадоў займаць выбарчыя пасады (за разьдзьмутае да агульнанацыянальнага ўзроўню «рукапрыкладзтва» падчас колішніх выбараў) ня здольнае спыніць Фронт — адзіную сапраўды правую сілу Францыі.

Як фронтаўскія, гэтак і незалежныя французскія аналітыкі лічаць, што калі скласьці галасы тых, хто ня ўдзельнічаў у выбарах і тых, хто галасаваў за скрайнія партыі, — лік пяройдзе за 60 адсоткаў ад усяго насельніцтва Францыі. А калі яшчэ ўлічыць новую палітычную стратэгію Фронту — «адкрыты дыялёг з правымі партыямі», — распрацаваную сп.Бруна Мэгрэ, які лічыцца спадкаемцам Ле Пэна на пасадзе лідара НФ, — дык пераконваесься, што Нацыянальны Фронт акрэсьлена вырашыў узяць стырно ўлады ў свае цьвёрдыя рукі.

«Галоўнае для мяне, — гаворыць сп.Мэгрэ, — гэта не парамога Фронту самога па сабе. Галоўнае — каб перамаглі нашыя ідэі й каб яны зьмянілі краіну.»

Французам надакучыла сьцерпліваць несуцішны страх за бясьпеку сваю й сваіх дзяцей, якая штохвіліны можа быць парушаная арабскімі тэрарыстамі, — яны паўстаюць на бок ультра-правых.

Ле-Пэн і Мэгрэ



"За нашую й вашую незалежнасьць" ...ад Радзімы й маральнасьці

# Па той бок АМД

Ясь Вітажэнец

Другі год запар у "Чарнобыльскім шляху" бяруць удзел актывісты расейскае арганізацыі "Антифашистское молодёжное действие" — дагэтуль амаль няведамага "інтэрнацыянальнага" задзіночаньня. Ідэалёгія АМД гэткая ж малавядомая шырокім колам, як раней і сама арганізацыя. Апанэнты беларускае ўлады з распасьцёртымі абдымкамі сустрэлі маскалёў, якія да таго ж мелі імпэт "пагуляцца ў барацьбу" зь беларускім рэжымам. Адно — не было зважана на пагляды зьнянацку ўзьніклых расейскіх "дружаў" пад "антыфашыстоўскай" шыльдаю. Зрэшты, прыдбаўшы іхную ўлётку з праграмным зьместам АМД, можна даведацца аб шмат чым насьцярожлівым ды відавочна непрыймальным для Беларусі, а калі гэтак — і маючым быць выкараненым зь беларускае зямлі.



Траянскі конь АМД

Зь першых радкоў зьзяе сваёй безварыянтнасьцяй першы наватвор АМД — вытлумачэньне панятку "фашызм". Падаецца, сюды яны ўлучылі ці ня ўсе вядомыя ім ідэйныя плыні апроч хіба лібэралізму. Між іншага там займае не апошняе мейсца й нацыяналізм. У самой Расеі, дзе беспакарана скрозь шчыруюць баркашоўцы, лімонаўцы, лысянкоўцы, — нацыяналізм як плынь, як зьява суцэльна здыскрэдытаваны. Тыя, хто завуць сябе "русскими националистами", даўно ўжо перайшлі да імпэрыялізму-шавінізму-расізму, узьняўшы на сваё штандары "свой обретший вечность сверх-народ" (РНЕ), "нерушимое славянское братство" (НБП), "великую Россию от океана до океана" (НРП). Праз гэта яны ня маюць права менавацца нацыяналістамі, бо перайшлі на насамрэч фашыстоўскія пазыцыі. Тады пры чым тут "нацыяналізм" — сьветлая ідэя абароны зьнявечанае нацыі?! Дык ці ж ня ведаюць гэтага ідэолягі АМД? Ведаюць, але наўмысна ганяць нацыяналізм побач з расізмам, бальшавізмам, нацыянал-сацыялізмам. Тым самым лупцуюць гучнымі поўхамі тых, з кім колькі часу таму маршавалі ў адной калёне — беларускіх нацыяналістаў.

Амаль напрыканцы папяровае агіткі АМД выдрукаванае незаўважнае "свабода сумленьня, дазвол дзейнасьці нетрадыцыйным рэлігіям". Гэтыя некалькі словаў, напісаныя дробненькім шрыфтам, самі па-сабе ёсьць асобнай ідэалёгіяй з акрэсьленымі дагматамі й разгалінаванай гісторыяй існаваньня. З-пад уяўна-нязначнае заслоны гэтага праграмнага пункту бачныя скалечаныя лёсы ахвяраў сэктаў таталітарнага кшталту, чуюцца несьціхальныя енкі параненых маладых душаў, шмат хто зь якіх гэтак і ня здолеў акрыяць пасьля замбаваньня "нетрадыцыйнымі рэлігіямі": Белым Брацтвам, АУМ Сынрыкё, Царквой саенталёгіі, Царквой Сатаны ды безьлічай іншых "нетрадыцыйнасьцяў", на рахунку кожнае зь якіх — сотні й сотні самагубцаў ды змарнелых. У Расеі й зараз назіраецца недахоп ложкаў у псыхшпіталях. Той, хто думае, што ў нас іх хопіць, — будзь разам з АМД, прапагандуй ідэі АМД, бі тых, хто наважваецца выступаць супроць "нетрадыцыйных, але безумоўна верных" поглядаў АМД.

"Цікава, якая гэта вадкасьць ударыла ў галаву актывістам АМД, — запытаецца цікавец, — калі яны рушылі гэткія недарэчныя для нашых абшараў ідэі?" Не марудзячы, адкажу: "вадкасьцяй" той завецца моцная ідэалягічная падтрымка з боку Захаду. Нездарма ж АМД ускінула заклік "Расею — у NATO!" На пустым мейсцы гэткае ня чыніцца: што кранічна ня ўспрыймецца ў іхнай роднай Расеі, тое з замілаваньнем падхопіцца на Захадзе. У гэтым жа шэрагу знаходзіцца й рэвэранс зь "нетрадыцыйнымі рэлігіямі" — менавіта на Захадзе зачаста ўтрыруецца панятак свабоды, калі легалізуецца прастытуцыя, а ў ААН дазваляюць гомасэксуалістам задзіночыцца ў асобную арганізацыю (што называецца, "па інтарэсах").

Тымчасам толькі ў нашай краіне, дзе ўсё перакульнутае дагары нагамі, гэткая арганізацыя, як АМД, можа звацца "самаахвярным барацьбітом з рэжымам" і "мужным расейцам, што змагаецца за правы нягеглых браткаў-беларусаў".

# Нацыянальная амнэзія




**(да праблемы вяртаньня нацыянальных традыцыяў і самасьвядомасьці)**

Серж Мікола Красьнічынскі (NS)

Акінуўшы ў вышыні свайго палёту ўсябачным і ўсюдыпранікнёным вокам зямельку нашую, чароўны прывід з жалем і прыкрасьцяй сказаў чалавеку: «Бачу, у вас цяпер тут край голы...» А, зірнуўшы ў вочы чалавеку, адзначыў прывід «у вачох ня гордасьць, але рабства, нявольніцтва пазірае, не адвага й ня сьмеласьць, але страх ува ўсёй гэтай постаці, гатовай заўсёды да паклону...» І, пазнаўшы раба ў суразмоўцы сваім, запляміў прывід яго сваёю пагардаю: «Нэгрыцянскі нявольнік больш захаваў у сабе гонару, чым у цябе, чалавеча, засталося... Бачу, як праз доўгія гады пагляд плюгавіўся пакорай, галава — паклонамі, вусны — лізаньнем рук нячыстых. Няволя затуманіла памяць тваю; забыўся ты людзкое назовы свае й гэтым сьцер ты з твару свайго знамя людзкое...»

Гэтая жахлівая канстатацыя, прысуд безыменнае паганскае багіні Ластоўскага, быў зьвернуты да беларускага абывацеля І-ае чвэрці ХХ-ага стагодзьдзя (глядзі апавяданьне В.Ластоўскага «Прывід» – С.К.). Быццам у апаліптычным відовішчы гучаць гэтыя словы, бо адлюстроўваюць апатэоз «тутэйшасьці» — працэсу, што падвёў Нацыю да мяжы гістарычнага бяспамяцтва, вышэйшае ступені этнічнае дэградацыі. Прад намі паўстае вобраз індывіду, які намагаецца ўзгадаць сваё нацыянальнае найменьне й урэшце, скарыўшыся перад бяспамяцтвам, апускае галаву ў рабскай пакоры. «Абываталь ня знае племені-роду свайго, ня знае назову зямлі роднае, каторая ўзрасьціла яго, у каторай зложаныя косьці бацькоў і дзядоў...» «Ці можа такое быць? — спытаецца якісьці іншаземец. — Ці не фантастычны гэны выпадак раптоўнае гістарычнае амнэзіі, што напаткала вялізную людзкую супольнасьць, буйны сваёю колькасьцяй этнас?!» Ці ня прыклад гэта нябачанага паводле сваіх сумераў бяспамяцтва? Ані традыцыяністцкая сьвядомасьць сэміта, ані тэхнізаваны розум «сярэдняга» заходнеэўрапейца ці японца пры ўсіх намаганьнях ня здольныя будуць як сьлед змадэляваць дзеля ўласнага асэнсаваньня падобны стан рэчаў у межах свае супольнасьці, бо нейкае шостае пачуцьцё ці мо' нейкі дух — дух самое супольнасьці — заблякуе ў сьвядомасьці гэткую апэрацыю.

> **Кожны народ не бяз роду і племені мае Летапіс свой і гісторыі сьлед на старонках.**
>
> *Мікола Гусоўскі*

Асобны чалавек у выніку псыхічнага калецтва можа забыцца й на сваё імя, і на мейсца, дзе ён жыў дагэтуль, але як можа забыцца на сваё найменьне цэлы народ, пазбавіўшыся разам зь Імем форматворчых традыцыяў, разам з традыцыямі — Нацыянальнае Дзяржавы, разам зь Дзяржаваю — зямлі свае, на якой дзяржава тая была ўзьведзеная, аддаўшы разам зь зямлёю душу сваю на закланьне, ды адно ня Богу, але хіба Д'яблу?!

Ці можа гэткае быць? Ці можа йснаваць гэткі народ, што, здрадзіўшы сваім продкам, пазбавіўся тымсамым гістарычнае памяці? «Не, ня можа!» — рашуча пярэчаць нашыя суседзі. Ці ня ў гэтым хаваецца прычына таго, што шмат хто зь іх, як і шмат хто ў сьвеце, яшчэ й дагэтуль не прызнае нас за асобны, слаўны гісторыяй і багаты на традыцыі этнас? Бо калі фантастычным уяўляецца згаданы фэномэн, дык ці могуць у рэальнасьці йснаваць тыя, што сталіся аўтарамі тае фантастыкі?

Найвялікшы сымбалізм, ці хутчэй — лёгіка барацьбы між Боскім і д'ябальскім, якой прасякнутая сусьветная гісторыя, — бачыцца ў тым, што ўсе, хто ймкнуўся насуперак Боскаму прадвызначэньня «зьяднаць у адзін натоўп усе народы й плямёны й говары» ў межах усходніх імпэрыяў (сэміцкіх — Асырыйскае, Новабабілёнскае, Арабійскае; Цюркійскіх — татарскае, імп.Тамэрляна, Маскоўскага царства; Расейскае імпэрыі й Савецкае імпэрыі), дамагліся найперш татальнага вынішчэньня ў індывідаў нацыянальнае сьвядомасьці, пачуцьця прыналежнасьці да свае нацыянальнае супольнасьці. І, бадай, несумнеўна, што гэты акт сымбалізаваў падсьвядомую спробу д'ябальскіх памагатых вярнуць чалавечую супольнасьць да таго перадэтнічнага стану, у якім тая знаходзілася падчас узьвядзеньня г.зв. Бабілёнскае вежы — сымболю плябейскае ганарлівасьці, якая паводле

задумы будаўнікоў павінна была стацца адмысловаю «брамаю багоў» (сэміцк.: Баб-Ілу — Бабілён), прайшоўшы празь якія чалавек нібыта сам прыпадабняўся да Бога. Паводле камуністычнага дарвінізму гэта была своеасаблівая «эвалюцыя» чалавека ад малпы да Бога(!) і асноўным рухавіком гэтае «эвалюцыі» ўяўлялася праца (!). Ці ня скрайняя гэта ступень духоўнае занядбанасьці, вульгарнага натуралізму й фактычнага гвалту, які зьдзяйсьняюць ашалелыя матар'ялісты з духоўнае прыроды чалавека?!

**Кожны народ мае тых, што апяваюць,**
**Чым ёсьць для народу ўпадак і хвала.**
***Янка Купала***

І, быццам бачучы праз прызму тысячагодзьдзяў апатэоз бальшавіцкае экспансіі, Усявышні ўказвае нам на той стан рэчаў, да якога ймкнуліся бальшавікі: «Вось (бачу) адзіны народ, і адзіны ўва ўсіх говар; і вось што пачалі яны рабіць, і не адступяцца яны ад таго, што задумалі зрабіць» (г.зн. узьвесьці вежу да нябёсаў — С.К.). У гэтым бачаньні прад намі паўстае не супольнасьць, але першабытны статак, быдлё, пазбаўленае нацыянальных прыкметаў. І яно марна ймкнецца ўзьлезьці на вяршыню Сусьвету, аб'яднанае й зарганізаванае ідэяй сацыяльнае (статкавае, першабытнае) роўнасьці. Гэта быў ужо апатэоз духоўнага калецтва чалавека, у выніку якога апошні пераўтварыўся ў пазбаўленае розуму зомбі, мэханізаваную йстоту, прыдатную зброю ў руках д'ябла. Ратуючы сваё стварэньне ад д'ябальскае апекі, прадвызначыў Усявышні: «Сыйдзем жа на зямлю й зьмяшаем тамака говары людзкія». І з гэнага моманту прыдбаў чалавек ад Бога яшчэ адно найменьне — найменьне нацыянальнае. І гэтак жа як сусьветны патоп альбо прышэсьце Збаўцы нацыянальны «фэтыш» (як з пагардаю заве яго Эвола) пакліканы быў стрымаць чалавека ад найвялікшага грэхападзеньня, за якім ужо не магло быць уратаваньня.

Паводле лучнага вызначэньня Ластоўскага, «народ, альбо нацыя, — гэта згуртаваньне людзкіх пакаленьняў у іхнай безупыннай плыні, ніколі неспыняльнай і невычэрпнай, якія маюць адно расавае паходжаньне, г.зн. у чыіх жылах цячэ адна кроў, хто насяляе адну тэрыторыю, мае свой арыгінальны фізычны й духоўны тып, свае звычаі, культуру, гісторыю й народны характар (мэнталітэт — С.К.), якім розьняцца ад іншых людзей, гавораць адною моваю ды праяўляюць сваю нацыянальную сьвядомасьць і Волю».

Адсюль робім як найменш дзьве высновы. Па-першае, Нацыя зьяўляецца катэгорыяй ня толькі прасторавай, але й часавай, і разглядаць дый дасьледаваць яе неабходна яшчэ ў гістарычным кантэксьце. Па-другое, Нацыянальная Воля — адна з асноўных нацыянальных прыкметаў супольнасьці й паводле свайго значэньня й важнасьці ўяўляецца гэткай жа неабходнай дзеля здаровага разьвіцьця этнасу, як і нацыянальная сьвядомасьць.

Нацыянальная воля супольнасьці праяўляецца ў ейным імкненьні да самастойнага жыцьця, якое магчымае толькі ўва ўмовах Нацыянальнае Дзяржавы — тае Дзяржавы, у якой усе кіраўнічыя пасады прадстаўленыя вылучна прадстаўнікамі карэннага этнасу, бо толькі свае (але не чужынцы) зацікаўленыя бараніць інтарэсы Свае Нацыі. Гледзячы на тых, хто прыйшоў да ўлады на Беларусі ў 90-ых гг.ХХ-ага ст., чуючы адусюль імёны й прозьвішчы ўсіх гэтых Уралаў дый Шэйманаў, міжволі згадваецца досыць трапны й як ніколі актуальны менавіта для азначанага пэрыяду заклік жаўнераў Слуцкага збройнага чыну 1920 г.: «Бараніцьма зямельку нашую беларускую ад маскоўска-жыдоўскае навалы!» Сёньня да гэтага звароту можна далучыць цэлы шэраг чужынскіх этнонімаў, якімі забруджаная нашая зямелька: гэта й цыганы-дравіды, і сэміты-арабы (з Блізкага Ўсходу), і цюркі, альбо, як заве іх абываталь, чуркі (з Турцыі, Азэрбайджану, Туркмэністану й інш.), гэта й расейскія татары (некаторыя зь іх — напрыклад, Урал Латыпаў — прадстаўляюць нават дзяржаўную ўладу Беларусі!), гэта й жыхары Каўказу ўсемагчымых нацыянальных колераў і гамаў — цэлая палітра ўсходняга барбарства прадстаўленая тут, на Беларусі канцу 2-ога – пачатку 3-яга тысячагодзьдзя па Н.Х. І ці не найвялікшаю ганьбаю для аднога з народаў «арыйскае расы», як вызначаў нас Ластоўскі, ёсьць той факт, што кіруе народам нават не сэміт (пасьля стагодзьдзяў чужынскага панаваньня мы адаптаваліся б нават да гэтага), а яшчэ горай — незаконнанароджаны дравіда-маскаль — плябейская паўкроўка, што ня ведае ні роду свайго, ані племя. І інтэрнацыянальная кроў ягоная змушае яго «інтэ-

**Шэсьце з выявамі слаўных продкаў па менскіх вуліцах**



працяг на старонцы 7

# ШТАТНЫ ПАДРАЗЬДЗЕЛ ГЭБЭ


Алесь Віталёнак

**Над чым кружляюць груганы - над падальлю памерлаю**

Давялося аднойчы шпацыраваць паўз мураваны плот, што ўзьведзены паблізу Сьвята-Духавага Сабору — галоўнае царквы беларускіх праваслаўных, дзе часьцяком удзельнічае ў набажэнствах сам мітрапаліт Філярэт. На бачным для вернікаў мейсцы быў ахайна выведзены надпіс “Маскалі забілі Бога”, які, відаць, адразу па зьяўленьні замазвалі, але зробленае гэта было досыць нядбайна, таму ён быў цалкам чытэльны.

Тымчасам, пры ўсёй шматзначнай трактоўцы сэнсу згаданага надпісу на розум міжволі прыходзяць некаторыя аналёгіі. Дзеля іхнага раскрыцьця варта перш-наперш паглы-біцца ў гісторыю. У гісторыю ўзьнікненьня Расейскае (“Русской”) Праваслаўнае Царквы, што прэтэндуе на бязьмежнае валадарства ў вернікавых душах і прышчэплівае ім непрыхаваны прарасейскі шавінізм.

…Як толькі ў 1918-ым годзе ў Расейскай — тады яшчэ “Российской” — Праваслаўнай Царкве сынадальным шляхам была ўрэшце адноўленая саборнасьць (як абавязковы атрыбут хрысьціянскае царквы), бальшавікі разагналі РПЦ, а сьвятароў пачалі масава зьнішчаць ды вывозіць у Сібір, у канцлягеры, на лесапавалы. “Буржуазныя перажыткі” й “царкоўныя забабоны” — рэлігійныя пачуцьці — выразаліся пад корань; адначасова чырвоныя забаранілі вернікам сьвяткаваць рэлігійныя сьвяты “пад страхам сьмяротнае кары”. Руйнаваліся храмы, а ў найбольш трывалых уладкоўвалі піўбары, клюбы, склады.

У гэткіх шатанскіх варунках і зьявіўся нехта Сергій Старагародзкі, які ў 1927-ым годзе, маючы ахоўчую паперу й дазвол з ГПУ, стварыў ілжэправаслаўны “Сынод”, сябры якога прызначаліся ў “ворганах”. Натуральна, большасьць высланых і катаваных у засьценках сьвятароў адмовіліся супрацоўнічаць з гэтым “чартоўскім спараджэньнем”. І тады загадамі Старагародзкага іх наўпрост адлучылі ад царквы за тое, што — не прысягнулі недавучцы-сэмінарысту Сталіну.

Нагода для гэтага зьявілася выбітна нахабная: незадоўга да пачатку абвяшчэньня нязгодным анатэмы “айцец Сергій” выдаў адмысловы маніфэст, дзе сьцьвярджаў, што “радасьці Савецкае дзяржавы ёсьць радасьцямі царквы”. І гэта — тымчасам, як кроў царкоўнікаў няспыннымі рэкамі лілася скрозь па краіне!

“Пяцігодка” 1932-1937 гг. была абвешчаная “бязбожнай пяцілеткай”. Сваім супрацоўніцтвам і з сталінскім рэжымам рэнэгаты ад веры непрытоена зьдзейсьнілі апастасію — вераадступніцтва, здраду веры й хрысьціянству, дадзеным рэлігійным зарокам.

У 1943-ім годзе праз патрэбу мабілізаваньня найбольшых сілаў народу дзеля змаганьня з фашыстоўцамі Бэрыем было вырашана стварыць Маскоўскі патрыярхат РПЦ — фактычна ўзнавіць царкву пад пільным наглядам НКВД. Лёкаям — памагатым Старагародзкага — быў выдзелены ўрадавы самалёт, каб сабраць зь лягероў ляяльных уладзе сьвятароў. Такіх назьбіралі няшмат, але й гэткую колькасьць вымушаныя былі палічыць дастатковай для правамоцнасьці абраньня патрыярха. Фактычна ж усё залежыла ад утворанае пры ГПУ Рэлігійнае Рады, кіраўніком якое прызначылі тав.Карпава, знанага сваім садызмам пры катаваньнях у 30-ыя гг. Ён меў сяброўскія дачыненьні з тав.Алексіем Сіманскім, якога й абралі “на патрыярха” пад імем Алексія І. Сіманскага ў ГПУ цудоўна ведалі: у галодныя 20-30-ыя гг. ён ня грэбаваў карыстацца ўрадавымі ЗІСамі, спэцабслугоўваньнем, езьдзіць у круізы за казённы кошт на адпачынак. Файная атрымалася пара: садыст Карпаў і прызначаны ў 1945-ым годзе патрыярхам калябарант Сіманскі.

Цьвярозы чалавек, пачуўшы гэта, запытацьме: як жа быў прызнаны гэткі антыкананічны гвалт зь Веры цэнтрам праваслаўя — Канстантынопалем?! Але заўсёды знойдзецца той, хто не адмовіцца “нагрэць рукі” на свае 30 срэбранікаў. У нашым выпадку “юдавым заробкам” сталіся 50 тысячаў даляраў, а тым, хто не пацураўся іх узяць, — канстантынопальскі патрыярх Максім, які імгненна прызнаў тую “гэбісцкую лавачку”, што ўзначальвалі “праваслаўныя атэісты” з ГПУ-НКВД-КГБ.

Прыхільнік какорыцы Хрушчоў неўзабаве пасьля ўвабраньня ўлады загадаў шпарка зачыняць храмы. Маўляў, вайну мы выйгралі, навошта нам зараз тыя “перажыткі царскага ладу”? Пры гэтым архірэям РПЦ за кожны зачынены сабор давалі грашовыя ўзнагароды. “Рупліўцы аб праваслаўі” нават пераўзышлі ўсе Хрушчовы разьлікі ў іхных высілках: за пэрыяд з 1958 па 1964 гг. колькасьць прыходаў зьменшылася ўдвая…

Падобны ж агідны пах суправаджаў усю савецкую гісторыю дзейнасьці РПЦ.

Сёньня РПЦ узначальвае патрыярх Алексій ІІ, які да абраньня ў 1990-ым годзе меў імя *Алексій Рыдзігер*. За савецкімі часамі быў талінскім мітрапалітам. У гэбэшных колах вядомы найперш сваёй палкай прыхільнасьцяй да сацыялістычнага ладу. Больш за тое — як адзін зь нямногіх, хто сапраўды быў адданы камунізму, Рыдзігер пачасту чытаў лекцыі аб Леніне, аб ідэальнасьці камуністычнае маралі. Зьяўляючыся "змагаром за чысьціню камуністычных шэрагаў у РПЦ", ён ніяк ня мог не супрацоўнічаць з КГБ. Завербаваны ў 1958-ым годзе, будучы патрыярх пісаў паклёпы й даносы на спаведнікаў, што апавядалі яму аб усіх сваіх сумневах у рацыйнасьці "абранага партыяй курсу". А ў ворганах наш актыўны Алексій меў ажно дзьве мянушкі — "Араміс" і "Драздоў". За чынную працу на КГБ ён быў узнагароджаны ордэнамі, граматамі, ганаровымі знакамі. Зараз у шэрагу зь іншымі "зручнасьцямі" патрыярх РПЦ валодае двума ЗІЛамі, аховай, наўпростай крамлёўскай сувязяй.

Маскоўскі патрыярхат сёньня актыўна займаецца камэрцыйнаю дзейнасьцяй, нават быў ублытаны ў справу аб кантрабандзе зброі ў палаючую Чачэнію(!). Узапраўды ж дбае аб душах чалавечых! У шэрагу з разнастайнымі афэрамі (з гарэлкай, нафтай) зусім ужо паўсядзённымі падаюцца выдаткі на выданьне й распаўсюд чарнасоценнае літаратуры.

Некалькі год ужо йдзе "раскрутка" пабудовы храму Хрыста Збаўцы. Але завадатары ўтойваюць, што пад будоўляю ўжо ўзьведзеныя гаражы й аўтастаянкі для " новых рускіх", адкуль ліфты маюць уздымаць "вернікаў з залатымі ланцугамі" адразу ў храм; ёсьць нават асабісты ліфт Алексія ІІ, што вядзе ў памяшканьне па-за Царскаю Брамаю. Атлусьцеў, пэўна, тав.Рыдзігер.

Да слова, немаведама чым ён кіруецца, выступаючы супроць перазахаваньня муміі Леніна. І якімі маральнымі якасьцямі кіруюцца герархі Тройца-Сергіевае лаўры, прымаючы Зюганава й іншых камуністычных лідараў у сьценах свайго кляштару? Альбо забыліся на тое, як камуністы выкідвалі парэшткі Сергія Раданескага, здымалі гэта на кінастужку й паказвалі па ўсёй краіне? Канешне ж, за "спэцзручнасьці" можна й не на такое забыцца. Абы плацілі добра.

Нам, беларусам, варта ведаць апісаны "нэгатыў", адваротны бок РПЦ, якая паўсюдна заяўляе аб адзінасьці беларускага й расейскага народаў, адкрыта прапагандуе "заподноруссизм" ды адмаўляе Беларускай Нацыі ў праве на самавызначэньне й існаваньне незалежна ад шавіністычных усходніх правадыроў.

У сьвятле ролі РПЦ у СССР, як подсьцілу перад любым рэжымным кіраўніком-камуністам, напэўна, і мелі рацыю тыя, хто вымалёўваў літары надпісу "Маскалі забілі Бога".

**...Бо хто паслужліва скакаў на задніх лапках перад антыхрысьціянскім рэжымам, той забіў Бога найперш у сваёй душы. Паводле хрысьціянскіх канонаў такіх нельга пускаць нават да агароджы храму...**

**«Лёкайства бальшавіцкім звыродням ёсьць духовым спустошаньнем»**




***працяг зь пятае старонкі***

гравацца» (калі не спароўвацца) ледзь не з усімі азіяцкімі народамі й плямёнамі, што маюць чужапасную (паразытычную — рэд.) уласьцівасьць рухацца праз нашыя абшары.

Тая псэўдаэліта на чале з плябейскім царом і падаўляе Нацыянальную волю прадстаўнікоў супольнасьці; аднак яна забываецца, што ёсьць яшчэ меншасьць, чыя воля да нацыянальнага вызваленьня й новага дзяржаўнага будаўніцтва незгінальная й невычэрпная.

І, калі тая меншасьць захавала сваю нацыянальную сутнасьць і ня здрадзіла памяці продкаў, яна пераўвасабляецца ўжо ў эліту, здольную забясьпечыць выжываньне свае супольнасьці. У прыродзе гэты закон мае генэтычную аснову: жывёлы, што прайшлі натуральны адбор, перадаюць сваім нашчадкам — а празь іх і ўсяму віду — жыцьцетрывалы ген, які ўмацоўвае наступныя пакаленьні папуляцыі ў ейнай барацьбе за йснаваньне.

У крывічоў быў звычай: калі юнак ня ведаў сваіх продкаў да пятага калена, ён ня меў права звацца мужчынам. Гэткаму чалавеку не даверялі, яго маглі наогул выгнаць з паселішча, бо лічылася, што бяспамятны лёгка робіцца здраднікам. Гэтым простым, але, бадай, унівэрсальным крытэрам нашыя продкі яшчэ ў першабытныя часы вызначалі права прыналежнасьці чалавека да супольнасьці. Бо недастаткова было мець чысьціню крыві пляменнае, каб зацьвердзіць свае права на «крывіцкасьць» — трэба было яшчэ мець іншую чысьціню. Чысьціню крывіцкага духу, якая вызначалася Памяцяй — памяцяй аб продках. Бо ці можа самвольна здрадзіць чалавек, які ведае славу сваіх продкаў і з гонарам лічыць сябе пераемнікам гэтае славы. Ці наадварот — памятае прыніжэньне сваіх бацькоў і дзядоў, і памяць пра іх абуджае гарачае ймкненьне да родавае ці нацыянальнае помсты (здаровага рэваншу). Аб тым сакральным узьдзеяньні, які аказвае на сьвядомасьць памяць аб продках, зазначаў Салюсьці*, заўважаючы гэткую асаблівасьць і ў рымлянскай душы, бо чуў ня раз, як праслаўленыя войсканачальнікі «Квінт Максім, Публі Сцыпіён і іншыя слаўныя мужы ... казалі, што яны, гледзячы на выявы сваіх продкаў, запальваюцца мацнейшым імкненьнем да славы». І «натуральна», адзначае далей Салюсьці, «ня гэты воск выяваў і ня гэты выраз твараў аказвае на іх гэткае вялікае ўзьдзеяньне; не, бо хутчэй ад успамінаў аб подзьвігах узмацняецца гэтае полымя ў грудзёх выдатных мужоў і супакойваецца не раней, як іхная слава зраўняецца з добрым імем і славаю іхных продкаў».

---

***Салюсьці (Sallustius)—Гай Салюсьці Крысп (86-35 гг. да Н.Х.)—старажытнарымскі гісторык і літаратар. Пададзены ўрывак цытуецца паводле ягонае кнігі «Югуртынская вайна».**

**З гэтага нумару *Гэта мы!* распачынае публікацыю абраных разьдзелаў з новае нізкі апавядаў пінчука Паўла Ляхновіча. Выйсьце ягонае кнігі “Пачатак сэзону” асобным выданьнем мяркуецца напрыканцы гэтага году. Некаторыя ейныя часткі ўжо зьмяшчаліся ў газэтах Берасьцейскае вобласьці (“Берасьцейскі кур`ер”, “Плошча”). Колішні старшыня Пінскае Рады БНФ, былы марак-падводнік, заўзяты паляўнічы, усе сюжэты ён бярэ з рэальнага жыцьця. Арыгінальнасьць і часьцяком гумарыстычнасьць вылучаюць Ляхновічавы творы з шэрае паўсядзённасьці. Такім чынам, мы маем гонар прэзэнтаваць таленавітага пінчука на старонках менскага друку.**

# ДЭГУСТАЦЫЯ

Капітан-лейтэнант Кузьміч па мянушцы “Кузя” любіў піва й усенародную павагу да маракоў. Але, улічваючы адсутнасьць у гарнізоне й піва й шырокіх народных масаў, Кузя задавальняў свае слабасьці толькі ў час адпачынку “на мацерыку”.

... Апрануўшы новенькую форму, Кузя прыдзірліва агледзеў сябе ў люстэрку. На фуражцы, прывезенай сябрам зь Севастопалю (сама лепш фуражкі шыюць менавіта там), зьзяў шыты золатам “краб”. Гэта вам не пазалочаная штампоўка — такія выдаюцца толькі капітанам першага рангу. А той інспэктар з Масквы, калі ўжо залез на падлодку, хай не губляе пільнасьці...

На залатых пагонах прыгожа вылучаліся бронзавыя зорачкі, любоўна адштукаваныя самім Кузем у аўтаномцы. Зьлева на тужурцы ціха пазвоньвалі два мэдалі, справа кідаліся ў вочы значакі — “За дальні паход” і аб сканчэньні ваеннае вучэльні. Ніжэй блішчэлі надраеныя медныя гузікі. Даваршаў карціну корцік, які матляўся на жоўтых раменьчыках крыху вышэй за левае калена.

З задавальненьнем ловячы на сабе зачараваныя позіркі цывільнага насельніцтва, Кузя шпацыраваў па вуліцах мястэчка, разьмешчанага ў глыбіні Эўразійскага кантынэнту, калі ягоны пагляд выхапіў шыльду з такім любым Кузеваму сэрцу надпісам “Пиво”.

Кузя лічыў сябе — і небеспадстаўна — вялікім знаўцам вышэйзгаданага напою. Таму асартымэнт яго вельмі зацікавіў. На шматку шэрага кардону было накрэмзана: “Пиво жигулёвское – 28 коп. Пиво сливочное – 15 коп.”. “Сливочного” Кузя ніколі не каштаваў. Пакумекаўшы, ён правёў раўналегласьць із словам “сливки” (вяршкі панашаму) і скеміў: у аснову гэтага пакладзенае малако. А што — нават кумыс мае некалькі там градусаў алькаголю...

Сьпяшаючыся як найхутчэй даць прафэсійную ацэнку новаму напою, Кузя нават зазлаваў на буфэтчыцу, калі яна ажно двойчы перапытала, што яму трэба.

Ля століку Кузя сербануў сьветла-жоўтае вадкасьці, патрымаў яе ў роце й прыслухаўся да арганізму. Аніякіх новых адчуваньняў! Увесь Кузеў досьвед сьведчыў: гэта — звычайнае “Жыгулёўскае”, да таго ж разьведзенае вадою. Тое, што ў прысутных былі “квадратныя” вочы, бліскучы ваенна-марскі афіцэр палічыў за вонкавую праяву зайздрасьці сухапутных пацукоў да яго, рамантыка акіянскіх глыбіняў.

Кузя аддсунуў куфаль і зь іроніяй пацікавіўся, чым жа гэтае “Сьлівачнае” адрозьніваецца ад “Жыгулёўскага”. Калі грамавы рогат скалануў “Храм Бахуса”, а буфэтчыца ад сьмеху палезла пад прылавак, зьбянтэжаны Кузя, нічога не разумеючы, паспрабаваў высьветліць прычыну гэткае раптоўнае весялосьці, але ня здолеў. Усе спробы нешта сказаць прыводзілі сталых наведвальнікаў да новых прыступаў сьмеху.

Дома на асьцярожнае пытаньне Кузі цешча растлумачыла, што “Пиво сливочное” — гэта тое, што *зьлівае* прадпрыймальная буфэтчыца зь недапітых куфляў для продажу пэўнаму кантынгенту...

*працяг зь першае старонкі*

цёмных начных вуліцах, не аглядваючыся паўзьменна на аргады напаўп’яных панкаў, гопнікаў ці скіноў. Утроп за сапраўдным усталяваньнем Парадку ў людзей узьнікнуцьме непадробны давер да ланцугу “БСА — нацыяналісты— нацыянальная ідэя—Вольная беларуская дзяржава”. Праз гэта ўсталюецца падсьвядомы выгляд Беларускага Парадку, які будзе атаясамліваціа вылучна з нацыяналамі, але не з ахамелымі “мянтамі”.

Афіцыйнае становішча адзьдзелаў БСА дазволіць прававітае йснаваньне моладзевых клюбаў для падрыхтоўкі беларускіх хлопцаў да годнае службы ў войску Вольнае Беларусі й усё, што з гэтым зьвязанае. І сапраўды ж: мала хто з “вулічных барацьбітоў” — сёньняшніх апазыцыянэраў уяўляе сабе, як выглядае зброя й як ёю карыстацца.

Маючы ў сваёй збройні адно непалітычную дзейнасьць, БСА мае працаваць толькі дзеля карысьці свайго народу, што ў прынцыпе ня зможа прынесьці нікому шкоду апроч рабаўнікоў, гвалтаўнікоў ды акупантаў.

Хопіць быць ад’емнымі сьведкамі бессаромнага зьдзеку з свайго народу! Сваю зямлю мы павінны ўзяць пад сваю ахову. Замежным плюгаўцам — крымінальным валянтэрам — мы мусім урэшце наступіць на атлусьцелую з нашае крыві глотку.

**Беларускім абшарам — Беларускі Парадак!**

Выданьне заснаванае ў сьнежні 1997 году
Галоўны рэдактар - Алесь Мікосеч
Падрыхтоўка макету - Цэнтар "Выдавецкая ініцыятыва".
Шчыры дзякуй гэтаксама ўсім, хто спрычыніўся да выпуску газэты.
Меркаваньні аўтараў могуць не супадаць з пунктам гледжаньня рэдакцыі.
Адказнасьць за дакладную падачу зьвестак нясуць аўтары матар'ялаў.
Адрэса для допісаў: 220086 Менск, а/с -121